


# ТУТЭЙШЫЯ

НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ

№2 (18), люты 2012

СПОРТ




**Сергей Крот заключил с клубом СФК «Слуцк» новый контракт, таким образом, завершив процесс формирования состава команды для участия в сезоне 2012 года.**

Тем самым, были выполнены важнейшие задачи, которые руководство СФК «Слуцк» ставило перед собой на старте предсезонной подготовки. Был сохранён костяк команды, хорошо зарекомендовавший себя в прошлом году, а также клуб пополнили новые футболисты, которые были необходимы для создания ещё более боеспособного коллектива.

Главный тренер СФК «Слуцк» **Юрий Крот** сказал по этому поводу следующее: *«Я доволен проделанной работой по комплектованию состава на новый сезон. Важно было сохранить основную группу игроков, которые обеспечили хороший результат в прошлом году. Нам также удалось получить в распоряжение новых игроков, в которых мы были заинтересованы. Стоит отметить, что своим отношением к тренировочному процессу новички клуба производят очень хорошее впечатление. Думаю, конкуренция за место в стартовом составе в этом году вырастет. Это говорит о том, что качественно мы попытались повысить уровень нашей команды. На этом работу по укомплектованию состава я считаю завершённой. Теперь мы можем полностью сосредоточиться на тренировочном процессе, что бы как можно лучше подготовиться к новому сезону».*

Слова главного тренера подтверждает тот факт, что из четырёх мячей, забитых СФК «Слуцк» в товарищеских матчах, проведённых в этом году, три гола на счету новобранцев нашего клуба (**Сергей Заболоцкий** 2 гола, **Дмитрий Хомицевич** 1 гол).

| ПРИШЛИ/ПРИХОДЯТ | УШЛИ / УХОДЯТ |
|---|---|
| Сергей Заболоцкий (ДСК-Гомель, Д2)<br>Дмитрий Хомицевич (Гранит, Д2)<br>Андрей Дашук (ДСК-Гомель, Д2)<br>Родион Жук (Гранит, Д2)<br>Александр Шота (Белкард, Д3)<br>Андрей Моложавый (Гранит, Д2)<br>Денис Якубович (Гранит, Д2) | Евгений Кудаш (Белтрансгаз, Д3)<br>Денис Каролик<br>Денис Костюкевич<br>Андрей Лис<br>Александр Карпиленко<br>Кирилл Деменковец<br>Дмитрий Калачёв (Днепр, Д2) |

*www.sfc-slutsk.by*
*www.football.by*

КУЛЬТУРА

## Слуцкія паясы з Нацыянальнага мастацкага музея Літвы ўпершыню экспануюцца ў Беларусі.

Чатыры слуцкія паясы са збору Нацыянальнага мастацкага музея Літвы ў Вільнюсе будуць экспанавацца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Паясы прадстаўлены з 17 лютага па 17 чэрвеня.

Многія памятаюць выстаўку шаўковых паясоў з Гістарычнага музея Масквы, якая праходзіла ў мастацкім музеі на працягу 2008–2010 гадоў. Некаторыя наведвальнікі тады ўпершыню ўбачылі шырока вядомыя па літаратурных творах слуцкія паясы. Гістарычна склалася так, што ў музейных зборах Беларусі гэтыя рарытэты прадстаўлены адзінкавымі помнікамі ў адрозненне ад Расіі, Літвы, Польшчы, Украіны. Улічваючы значную цікавасць публікі да нацыянальнай спадчыны, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі плануе і ў далейшым арганізоўваць дэманстрацыю рарытэтаў - слуцкіх паясоў з розных збораў.

*www.belta.by*

## Чаму нашыя слуцкія паясы зачыненыя ў музейных сейфах?

Слуцкія паясы ў Беларусь прывозяць музеі Літвы і Расіі. **Еўрарадыё** адшукала пяць паясоў ў беларускіх музеях. А выстаўляецца толькі адзін!

"Іх лёс вельмі трагічны. З такога пояса можна было атрымаць 15-20 грам золата. Іх проста спальвалі! Шмат было страчана", — паказвае адзін з нешматлікіх слуцкіх паясоў кіраўнік музея старажытнай гісторыі Акадэміі навук **Барыс Лазука**.

У музеі захавалася два паясы. Другі зроблены не ў Слуцку, а ў Ліёне. Французы ткалі паясы пад беларускім брэндам. Абодва захоўваюцца ў сейфах музея, чакаюць рэстаўрацыі. Для **Еўрарадыё** зрабілі выключэнне і дасталі адзін пояс з сейфа.

Цяпер на аўкцыёне такі можа каштаваць каля 300 тысяч еўра, а ў лепшым стане кошт можа даходзіць да паўмільёна, — гаворыць **Барыс Лазука**. І асцярожна, у пальчатках, разгортвае пояс.

"Ён каштаваў, як добры маёнтак з хатай, службамі і некалькімі прыгоннымі. Некалькі тысяч дукатаў".

Знайшлі гэты пояс у зачыненым касцёле на Глыбоччыне, пояс быў разрэзаны і з яго было сшыта... пакрывала. У музеі кавалкі раздзялілі і сшылі, як трэба, — так у Беларусі з'явіўся свой поўны слуцкі пояс.

У параўнанні з паясамі, якія прывезлі да нас літоўцы, беларускія знаходзяцца ў значна горшым стане. Бо, паводле слоў загадчыцы аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея **Алены Карпенкі**, іх знаходзілі ў хламе.

"Нашыя паясы былі ў горшых умовах. Знаходзіліся ў касцёлах і на гарышчах. Часцей знаходзіліся ў нейкім хламе. Гэта быў перыяд барацьбы з рэлігіяй, калі зачыняліся цэрквы і маёмасць знішчалася. А тканіну вельмі складана ўзнавіць".

Як даведалася **Еўрарадыё**, агулам у беларускіх музеях захавалася 5 (!) поўных слуцкіх паясоў — у Мінскім абласным краязнаўчым музеі, у Музеі старажытнабеларускай культуры, Літаратурным музеі **Багдановіча** і два — у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры.

Яшчэ ёсць 5 паясоў слуцкага тыпу, якія зробленыя не ў Беларусі. Таксама захавалася 30 фрагментаў паясоў, палова з іх таксама слуцкага тыпу. Колькі паясоў у прыватных калекцыях — невядома, але адзін фрагмент ананімны калекцыянер пакінуў на захаванне ў Нацыянальным мастацкім музеі.

Паглядзець на цэлы залататканы пояс можна ў Маладзечне, там ён экспануецца з часоў Дажынак. Гэты пояс прывезлі з Масквы ў 1970-я гады на часовае захоўванне, а пазней афармілі на пастаяннае.

"З Літвы прывезлі паясы ў дзівоснай захаванасці, нібыта іх учора сакталі. Наш сшыты з дзевяці фрагментаў, "пабіты жыццём". А колькі ў Дзяржаўным гістарычным музеі (у Маскве) паясоў, беларусам не кажуць".

Два паясы ў Нацыянальным гістарычным музеі выстаўляюць на паказ рэдка, бо час іх таксама не пашкадаваў. Цяпер паглядзець іх не атрымалася, таму што фонды музея пераязджаюць.

У Музеі **Багдановіча** зараз таксама пераезд, таму слуцкі пояс нельга пабачыць. Ён быў знойдзены падчас раскопак у зямлі, і таму кепска выглядае, але адрэстаўраваны.

"Акрамя страчанага колера, усё астатняе ў яго як бы ёсць. Мы яго нават экспанавалі, выклалі сярод астатніх, але ён такі бескаляровы", — распавядае галоўны захавальнік музея **Ніна Гарэлік**.

Такім чынам, сёння можна пабачыць толькі адзін з пяці цэлых слуцкіх паясоў — у музеі ў Маладзечне. А ўсе паясы разам апошні раз выстаўлялі шэсць гадоў таму, у 2006 годзе.

***Віталь Ругайн, www.euroradio.fm***

# Слуцкі Пацік Ваван

Эпізод 1

1

МНЕ МАРШРУТАЧКУ ДА СЛУЦКУ, КАЛІ ЛАСКА...

СЁНЬНЯ НЕЛЬГА СПАЗЬНІЦЦА!

2

3

АПЯЦЬ АПАЗДЫВАЮТ! АТМАРОЖЭННЫЕ. КОНЧЕНЫЕ... ВРЕМЯ - БАБКИ! БЛ**#!

4

ШТО ВЫ КРЫЧЫЦЕ? МОЖАЦЕ СУПАКОІЦЦА?

OK

ДАВАЙ ТАК: Я НИЧЫВО НЕ БУДУ СЕЙЧАС ГАВАРЫЦЬ. ИЗВИНЯЦЦА ЛИ АПАЗДАВШЫЕ?

ПРАЙШЛО 100500 ХВІЛІН ЧАКАНЬНЯ

5

САДЗІСЯ, ДАВАЙ...

ДА СЛУЦКА?

6

І ЦІШЫНЯ...

АБ ЧЫМ Я І ГАВАРЫЎ! У СЛУЦКУ НЕ ПА-ЛЮДЗКУ!

Канец першага эпізоду. Працяг будзе!

2012

*Усе пэрсанажы выдуманыя, усялякае супадзеньне зьяўляецца выпадковым ;-)

Сабраліся ехаць ў Менск па справах, заходзіце ў мікрааўтобус і чуеце сакавітую лаянку кіроўцы на людзей, што не прыйшлі ў прызначаны час на прыпынак? Трымайцеся, вы едзеце з Ваваном. Чалавек не благі, але ну надта эмацыйны. Канечне, ягоны лексікон не рэкамэндаваны для слыху цяжарных жанчынаў і дзяцей, але нельга не пагадзіцца зь некаторымі ягонымі словамі. Напрыклад, што ня рэдка людзі не прабачаюцца за сваё спазьненьне (здараецца, і на паўгадзіны), ці што на цягнік/самалёт пасажыры баяцца не пасьпець, а маршрутка нібыта можа і пачакаць. Шмат каму не спадабаецца такая нэрвовая паездка, кіроўцу таксама не замінала б навучыцца добрым манэрам. “За Слуцак крыўдна!” - любіць казаць Ваван. І гэта ягонае самае трапнае выказваньне.

**<u>Правілы выжываньня для пасажыраў у маршрутцы з Ваваном:</u>**

**1**-не ў якім разе не спазьняйцеся! **2**-каб адмовіцца ад паездкі - тэлефануйце за некалькі гадзінаў; **3**-ня ляпайце дзьвярыма, бо яны зачыняюцца адным пальцам, лепей дазвольце кіроўцу самому прадэманстраваць вам майстар-клясу; **4**-не чапайце занавескі!; **5**-пры размове з Ваваном, паддаквайце і пагаджайцеся; **6**-будзьце ветлівымі і спакойнымі; **7**-бярыце з сабой навушнікі, перад паездкай падзарадзіце плэер/тэлефон.

**ПАВАЖАНЫЯ СЛУЧЧАНЕ! БУДЗЬЦЕ ВЕТЛІВЫМІ І ТАКТЫЧНЫМІ. ТРЫМАЙЦЕ МАРКУ ЖЫХАРОЎ КУЛЬТУРНАГА ГОРАДУ!**

©ТУТЭЙШЫЯ
<u>НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ</u>

ПОГЛЯДЫ АЎТАРАЎ АРТЫКУЛАЎ МОГУЦЬ НЕ СУПАДАЦЬ З ПАЗЫЦЫЯЙ РЭДАКЦЫІ.

**УСЕ АРТЫКУЛЫ ДРУКУЮЦЦА НА МОВЕ АЎТАРАЎ.**
УЖЫВАЮЦЦА: БЕЛАРУСКАЯ (ТАРАШКЕВІЦА), БЕЛАРУСКАЯ (НАРКАМАЎКА) ДЫ РАСЕЙСКАЯ МОВЫ.




***<u>Заснавальнік і выдавец:</u>***
*грамадзкая ініцыятыва “Тутэйшыя”.*

***<u>Нашы кантакты:</u>***
***e-mail:*** *slucak1116@gmail.com.;*
***адрэса для ліставаньня:*** *223610 г.Слуцак, а/с 60.*

*Распаўсюджваецца бясплатна.*
*Наклад: 299 асобнікаў.*